

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№ 2 (131), ЛЮТЫ 2012 ГОДА

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## НЕ ЗНІКАЮЦЬ НАБАЛЕЛЫЯ ПЫТАННІ

**Сярод форм работы з насельніцтвам – падворныя абходы. Каб было з чым ісці да людзей, трэба пазнаёміцца з абстаноўкай на месцах. На днях спецыяльная камісія раённых чыноўнікаў агледзела жылы фонд вёскі Добрына.**

Пытанні жыццязабеспячэння: матэрыяльны дабрабыт, узровень культуры, добраўпарадкаванне населеных пунктаў і навя¬дзенне парадку на зямлі –заўсёды былі прэярытэтамі ў дзейнасці органаў мясцовай улады. Менавіта таму пры падворным абходзе ўвага чыноўнікаў была звернута найперш да стварэння прымальных і здаровых умоў працы, быту і адпачынку.

У вёсцы Добрына, якая размешчана на тэрыторыі Лаўжанскага сельсавета пражываюць 392 чалавекі. Групам службоўцаў з райвыканкама спатрэбілася два дні, каб агледзець 142 домаўладанні. Першыя ўражанні – вёска старэе. Некалі Добрына было цэнтральнай сядзібай буйнога саўгаса, тут кіпела жыццё. Зараз налічваецца каля ста пенсіянераў і больш сямідзесяці непаўналетніх дзяцей. Адпаведна і прэтэнзіі да начальства з раёна ў іх спецыфічныя.

Так, да прыкладу, на вуліцы Пралетарскай некаму спілаваць старое дрэва. Аднак гэта толькі на першы погляд здаецца, што спілаваць дрэва вельмі проста, тут патрэбны і людзі падрыхтаваныя, і адпаведнае абсталяванне. Пасля моцных вятроў старыя таполі вельмі небяспечныя і ствараюць пагрозу. Да таго ж пры спілоўванні некаторых дрэў не абыйсціся без адключэння электрычнасці. Вось і атрымліваецца, што справа гэта і няпростая, і нятанная. Яшчэ пажылыя людзі незадаволены тым, што на пошце няма пральнага парашка і мыючых сродкаў. Аднак чаму іх павінны завозіць у мясцовае аддзяленне сувязі, калі для гэтага ёсць крама? Наўпрост пажылым людзям з вуліцы Маладзёжнай або Залужскай бліжэй хадзіць за таварамі. Начальнік пошты спадар Ю. Гендзэль у сваю чаргу заверыў вяскоўцаў, што на неабходныя тавары будуць дадзены заяўкі.

Не абыйшлося без папрокаў і ў бок работнікаў гандлю. У мясцовай краме хутка разбіраюць малако – на ўсіх не хапае. І наогул бедны асартымент прамысловых тавараў. У прыватнасці, дзецям немагчыма купіць школьныя прылады.

Самыя злабадзённыя пытанні тычыліся неспрыяльных умоваў пражывання ў старых двухпавяпхоўках. Гэта бадай, што самая цяжкая спадчына савецкіх часоў ва ўсім раёне. Жыхары трохпавярховага дома, што па вуліцы Маладзёжнай, пакутуюць ад холаду ў кватэрах. Нягледзячы на тое, што ў Добрыне ёсць кацельня і наладжана цэнтральнае ацяпленне, тэмпература ў пакоях нашмат ніжэй нормы. Па ўсяму відаць, што цяпло забіраюць сумежныя кватэры, у якіх даўно ніхто не жыве. Не зачынены люкі, дзіравы дах, расчыненыя дзверы. Дык хто вінаваты, калі кацельня абагравае неба?

Апроч таго, вяскоўцам перашкаджаюць спакойна жыць алкаголікі і гэтак званыя бамжы. Пастаянныя скандалы ў сем'ях, засмечванне пустуючых кватэр, парушэнне грамадскага парадку – вось далёка не поўны пералік праблем, што ствараюць людзі, якія вядуць асацыяльны лад жыцця.

Незразумела, а чым тады займаецца савет грамадскага пункта аховы правапарадку, які абавязаны весці працу па прафілактыцы правапарушэнняў? У сельвыканкаме таксама павінен быць банк дадзеных людзей, якія стаяць на ўліку ў нарколага, якія з'яўляюцца абавязанымі асобамі і ўхіляюцца ад выхавання дзяцей, злоўжываюць алкаголем, раней судзімых і нідзе не працуючых. Усе гэтыя катэгорыі людзей патрабуюць індывідуальнай работы. Гэтыя і іншыя накірункі дзейнасці мясцовай улады рэальна могуць паспрыяць таму, каб менш падстаў было ў вяскоўцаў абівась парогі выканкамаўскіх кабінетаў.

**Аляксандр Шчамлёў.**

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

## ЖЫЦЦЁ РАСКРУЧВАЕ МАХАВІК ПРАБЛЕМАЎ

**Ёсць праблемы, якія можна вырашыць уласнымі сродкамі, але не мала і такіх, вырашэнне якіх, зазвычай, залежыць ад чыннікаў, што знаходзяцца па-за кампетэнцыяй і магчымасцямі кіраўніцтва раёна.**

За мінулы год на кожнага шумілінца прыпала больш за 30 літраў гарэлкі. У сувязі з гэтым на пасяджэнні з старшыні райвыканкама прагучала просьба начальніка аддзела А. Крукава абмежаваць продаж спіртных напояў.

Але ці дапаможа такая мера вырашыць праблему? Вельмі прымітыўнае і просталінейнае выйсце. Нічога, акрамя негатыўнай рэакцыі з гэтае ініцыятывы не народзіцца. Калі дзяржава сама спойвае народ танным пойлам, гэткія паўмеры – пустая згуба часу і сродкаў.

Нявырашаны і лёс Обальскага керамічнага завода. Прадпрыемства засмакталі такія праблемы, якія вырашыць даволі цяжка. Завод наведалі тры інвестары, але асаблівага плёну гэтыя візіты не далі. Цяпер вырашаецца пытанне па працаўладкаванні рабочых цэха №1 завода на торфаўчастку ў Обалі, па лініі фірмы "Марка". Да таго ж на керамічным заводзе ўзнікла крытычная сітуцыя па выплаце падаткаў.

Па ўсім відаць, давядзецца апісваць цэглу для далейшай яе рэалізацыі ў кошт пагашэння падаткаў. Дарэчы, на пляцоўках зараз ляжыць прадукцыі на 9 мільярдаў рублёў. У сістэме райспажыўтаварыства свае праблемы: ў продажы няма ні ялавічыны, ні свініны. Сітуацыю трэба выпраўляць.

НАША САЛІДАРНАСЦЬ



## Сын Мірона павесіў бел-чырвона-белы сцяг на дом Каваленкі

**Сын легендарнага Мірона 10 лютага блізу 15:00 павесіў на дом вядомага віцебскага актывіста Сяргея Каваленкі нацянальны бел-чырвона-белы сцяг.**

Сябра Кансерватыўна-хрысціянскай партыі Ян Таўпыга паведаміў "Народным навінам Віцебска", што з крыніц вартых даверу яму стала вядома, што сцяг узняты на знак салідарнасці з Каваленкам, які зараз знаходзіцца ў СІЗА і трымае галадоўку. Да сцяга была прымацаваная цыдулка з наступным тэкстам: «Гані быкоў! Вярнецца воля! Слава героям! Слава Беларусі! Ясь — сын Мірона».

Нагадаем, што Сяргей Каваленка абвінавачваецца ва ўхіленні ад адбыцця пакарання, якое яму было прызначанае за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на галоўную ёлку Віцебска ў 2010 годзе. Перашае пасяджанне суда над ім адбудзецца 21 лютага. Раней, 8 лютага, ужо быў вывешаны нацыянальны сцяг таксама на знак салідарнасці з палітзняволеным.

**С.Серабро.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

## На выпраўленне сітуацыі часу няма

**Супрацоўнікі аддзела па надзвычайных сітуацыях адправіліся ў рэйд па раёну. У прыватнасці, рэйдавая праверка тычылася мнагадзетных сем'яў, якія пражываюць у дамах з пячным ацяпленнем. Падчас праверкі былі выяўлены звыш дзесятка дамоў з аварыйнымі печкамі.**

З мэтай папярэджання пажараў супрацоўнікі аддзела па надзвычайных сітуацыях наведалі тыя сем'і, у якіх пражываюць трое ці больш дзяцей. Усяго ў нашым раёне налічваецца 176 мнагадзетных сем'яў. Для больш зручнай працы работнікі і спецыялісты падзяліліся на групы.

Першая рэйдавая група на чале з начальнікам Валерыем Усцюговым праводзіла паўторны аб'езд. Перадусім супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуцыях ужо праводзілі праверку паўтара дзесятка дамоў на тэрыторыі Мікалаеўскага сельсавета. У большасці выпадкаў гаспадары ахвотна прапускалі візіцёраў у свае пакоі. Адразу было відаць, што жыллё да зімы падрыхтавана: і печы спраўныя, і дровы складзены.

Аднак адначасова давялося пабачыць, як нядбайныя жыхары не паклапаціліся аб пячным ацяпленні і тым самым стварылі пажаранебяспечную сітуацыю. Так, у вёсцы Бабулі ў адной хаце печка дала трэшчыны, праз якія шугаў агонь, а дым ужо закапціў столь і сцены. На гэту нядобранадзейную сям'ю некалькі тыдняў таму быў накладзены штраф за аварыйную печку. Аднак вывадаў зроблена не было, і печку не адрамантавалі. Супрацоўнікам аддзела давялося звярнуцца ў сельсавет, каб там дапамаглі сям'і выдзеліць часовае жыллё – трэба ж людзям неяк перажыць халады.

Разам з тым, на тэрыторыі Сіроцінскага, Светласельскага і Мішневіцкага сельсаветаў было выяўлена каля дзесятка дамоў з печкамі, якія патрабуюць рамонту. Як высветлілася, некаторыя вяскоўцы парушаюць правілы супраць пажарнай біспекі. Да прыкладу, былі знойдзены самаробныя пробкі ў лічыльніках, гэтак званыя жучкі, хтосьці яшчэ карыстаецца самаробнымі абагравальнікамі.

Напрыканцы члены рэйдавай брыгады пацікавіліся работай гандлю. Як аказалася, у Кардоне, Дабеі і яшчэ пяці вясковых крамах адсутнічалі ў продажы пробкі да электралічыльнікаў, пажарных апавяшчальнікаў. Выходзіць, калі трэба тэрмінова замяніць пробку, неабходна дабірацца да райцэнтра. Рэйды па мнагадзетным сем'ям будуць працягвацца. Усё гэта - рычагі ўздзеяння, якія дапамагаюць не даводзіць становішча ў некаторых сем'ях на крайняй сітуацыі.

**Я. Вайтовіч.**

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета стала размяшчаецца на партале *http://kamunikat.org/*, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: *http://kamunikat.org/svitanak.html*, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

У ЦЭНТРЫ УВАГІ

# Падведзены вынікі за год

**На лютаўскім пасяджэнні раённага выканаўчага камітэта адным з галоўных пытанняў парадку дня былі вынікі работы народнай гаспадаркі. Аналіз бюджэту за 2011 год паказаў, што большасць прагнозных паказчыкаў не выкананы. Больш таго, Шумілінскі раён спрацаваў са стратамі ў 6 мільярдаў рублёў.**

Якім жа быў год для раёна? Няпростым, як і ў цэлым па краіне, аднак без асаблівых катаклізмаў, якія б перашкаджалі працаздольнасці калектываў. Як правіла, усе мы ацэньваем сітуацыю па ўласным дабрабыце. І тут лічбы сведчаць, што мы сталі жыць горш. Нягледзячы на значныя сродкі, закладзеныя ў бюджэт, літаральна ўсе планавыя заданні былі недавыкананы. Пры гэтым даходная частка бюджэту раёна выканана на 101, 7%.

На пасяджэнне камітэта былі запрошаны кіраўнікі раённых службаў, прадпрыемстваў і арганізацый. Старшыня Шумілінскага райвыканкама Уладзімір Куранны сваім уступным словам нацэліў усіх прысутных на грунтоўную размову, крытычны аналіз з нявыкарыстаных рэзерваў. Даныя сведчаць аб тым, што вынікі несуцяшальныя – за мінулы год раён спрацаваў са стратамі ў шэсць мільярдаў рублёў. Паводле галоўнага спецыяліста аддзела эканомікі Г. Іваненка, з дваццаці чатырох параметраў сацыяльна эканамічнага развіцця раёна выканана толькі два. З даведзеным аб'ёмам па вытворчасці валавай прадукцыі справіліся толькі ў сельгаспрадпрыемствах і па экспарту паслуг.

Між тым, не выканаваны заданні па аб'ёму вытворчасці прамысловай прадукцыі, па росту аб'ёму экспарту і зніжэнні імпарту тавараў, па аб'ёму рознічнага тавараабароту.

Разам з тым, ніжэй за гадавыя прагнозы і заданні атрыманы паказчыкі ў

рэалізацыі платных паслуг насельніцтву, росту аб'ёму інвестыцый у асноўны капітал, заданне па будаўніцтву жылля, па энергазберажэнні. Не дасягнуты запланаваны ўзровень сярэдняй заработнай платы. Не спраўдзіліся прагнозы па колькасці занятага насельніцтва і некаторыя іншыя параметры.

Калі ў сельскай гаспадарцы ёсць пэўныя зрухі да лепшага, то гэтага не скажаш у цэлым пра прамысловасць. Шэраг прадпрыемстваў спрацавалі са стратамі. Пры гэтым асабліва вызначыліся Обальскі керамічны завод, які недалічыўся 19,4 мільярдаў рублёў і Шумілінскі льнозавод – 1,2 мільярдаў рублёў.

Былі агучаны лічбы па выкананню бюджэтных паказчыкаў. Трэба сказаць, што ў мінулым годзе была захавана яго сацыяльная накіраванасць. 63,7% усіх расходаў было патрачана на ўтрыманне ўстаноў сацыяльна-культурнай сферы, матэрыяльнай падтрымцы насельніцтва.

Прычыны невыканання планавых заданняў вымушаны былі тлумачыць кіраўнікі тых прадпрыемстваў, якія дапусцілі зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці. У першую чаргу гэта датычыцца кіраўнікоў, якія не павінны баяцца браць на сябе адказнасць і не спасылацца на "аб'ектыўныя прычыны", а шукаць прычыны праблемы ўнутры, аналізуючы, што і дзе недапрацавана.

Зрэшты, заданні на наступны год перад усімі пастаўлены вельмі няпростыя і напружаныя. Але ці рэальныя? Уладзімір Куранны нацэліў кіраўніцтва раёна да канца года выйсці на вытворчасць прадукцыі да 180 – 200%. Гэта дало б магчымаць павысіць заработную плату пад канец года да пяці мільёнаў рублёў, каб шумілінскія працаўнікі не пакідалі раён у пошуках дастойных заробкаў.

**Алесь Шумскі.**

# УСЮ ТЭХНІКУ – НА РАСЧЫСТКУ ДАРОГ

**Снежная і марозная зіма падкінула клопату шумілінскім дарожнікам і камунальнікам. Але ж нават працуючы кругласутачна, дарожнікі не ў стане ачысціць усё імгненна і адначасова. Экстрэмальныя сітуацыі пачынаюцца, калі некалькі дзён запар ідзе снег, гаспадарыць завірухі. Тады на расчыстку дарог адпраўляюць усю тэхніку.**

"На балансе мясцовай дарожнай арганізацыі ДРБУ-204 усяго 660 кіламетраў дарог. На расчысцы задзейнічаны 14 адзінак тэхнікі. Апроч таго, працуе брыгада з шасці чалавек, якая ўручную займаецца расчысткай аўтобусных прыпынкаў і мастоў.

Дарожная арганізацыя ў першую чаргу расчышчае дарогі, якія знаходзяцца на яе балансе, усе астатнія, а гэта ў асноўным вясковыя вуліцы, застаюцца на потым.

У перыяд моцных снегападаў першачаргова вядзецца расчыстка цэнтральных дарог, дзе ходзяць аўтобусы і аўталаўкі. Але людзі тэлефануюць – просяць і патрабуюць, звяртаючы ўвагу на тое, што тэхніка, якая расчышчала дарогу побач, не заехала на іх вуліцу. Толькі на наступны дзень тэхніка прыбывае і ў астатнія вёскі.

Але ёсць і шэраг недапрацовак, якія кідаюца ў вочы з першага погляду. Дрэнна расчышчаныя вуліцы, двары шматкватэрных дамоў, пляцоўкі для стаянак аўтамабіляў, слізкія тратуары, кантэйнеры, даверху запоўненыя смеццем, — такімі нярэдка паўстаюць некаторыя мікрараёны райцэнтра. Сказаць, што ў гэтым вінаваты менатвіта камунальнікі было б несправядліва. Праблемы пры расчысцы дваровых тэрыторый часта ствараюць самі жыхары. Снегаўборачная тэхніка ў асобных дварах не можа прайсці з-за легкавых машын, якія ставяць каля шматпавярховых дамоў. У гэтым выпадку ачышчаюць ад снегу толькі праезжую частку. А вось на расчыстку ходнікаў у камунгасе людзей не хапае.

Як бы там ні было, але пакуль што выпрабаванне снегам шумілінскія дарожнікі вытрымалі. Пакуль што ніхто з жыхароў раёна не адчуў сябе адрэзаным ад свету.

**Алесь Прыбярэжны.**

# СІТУАЦЫЯ З ПАЖАРАМІ ПАЛЕПШЫЛАСЯ

**За мінулы 2011 год у нашым раёне адбылося 37 пажараў, у агні загінулі два чалавекі, пацярпелі чатыры. Гэтыя лічбы крыху меншыя за папярэднія. У 2010 годзе адбылося 49 пажараў. Загінулі 13 чалавек, два атрымалі апёкі рознай цяжкасці.**

У цэлым сітуацыя з пажарамі і гібеллю людзей як у нашым раёне, так і па ўсёй краіне застаецца напружанай. Як паказвае аналіз, асноўнымі прычынамі пажараў былі неасцярожнае абыходжанне з агнём, няправільная эксплуатацыя печак і дымаходаў, а таксама электраправодкі. Трэба адзначыць, што нярэдка прычынай ўзнікнення пажараў, а таксама смерці людзей стала курэнне ў ложку ў стане алкагольнага ап'янення. На жаль, колькасць пажараў у жылым фондзе павялічваецца, у агні гінуць людзі.

У 2011 годзе на Шумілінщыне агульны урон ад пажараў саставіў 100,041 мільёна рублёў. Агнём знішчаны 17 жылых дамоў, згарэла дзве і пашкоджаны 13 надворных пабудоў. У 2010 годзе знішчаны чатыры дамы і 14 надворных пабудоў, пашкоджана 11 жылых дамоў. Агульны ўрон саставіў 129,6 мільёнаў рублёў.

**Я. Вайтовіч.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# ПРА ДРОВЫ ТРЭБА КЛАПАЦІЦЦА ЗАГАДЗЯ

**Сапраўдны гаспадар ніколі не сустрэне халады са скупымі запасамі дроў ці брыкету. Але ж ці клапоцяцца людзі пра паліва загадзя? Можна пра гэта падумаць , канечне, і зімой, але пры ўмове, што назапасіў неабходную колькасць сухіх дроў для запалу.**

Сёння на пляцоўцы шумілінскага філіяла АУП "Віцебскаблпаліў" назапашана 230 кубоў драўніны. Пасля доўгіх і настойлівых гутарак з боку мясцовых улад кіраўніцтва лясгасу павярнулася тварам да прадпрыемства і народа: дамовіліся, што адтуль будзе паступаць у месяц 300 кубічных метраў дроў. А гэта з разліку на 60 сядзіб. Разлічыўся нарэшце з прадпрыемствам і бюджэт, цяпер няма праблем з аплатай ні за дровы, ні за торфабрыкет. Дарэчы, заяўкі па брыкеце выконваюцца на працягу тыдня, дровы трэба чакаць два-тры месяцы. Вядома пры ўмове, калі не паступае экстранных заявак ад інвалідаў вайны і нагогул ад ільготнікаў.

Але, як заззвычай у гэтай краіне ўсё робіцца ў апошні момант, калі прыцісне:

многія спажыўцы "спалі ў шапку", заказалі сабе паліва перад самымі халадамі. Так што ў псіхалогіі людзей мала што змяняецца і пераламаць яе, нават, у такой драбязе даволі цяжка.

Каторы год прадпрыемства праз раённы друк змушае людзей клапаціцца пра запал загадзя, але воз, як кажуць, і зараз там.

Як ні дзіўна, мёртвы сезон — гэта сакавік-красавік, калі заявак па мізэру. Між тым сапраўдны гаспадар завозіць дровы ў траўні. Паколатыя дровы, месяц прасушыўшы на падворку, ужо можна скласці пад паветку як сухое паліва. Працуе прадпрыемства і пад заказ: пілуе цуркамі, а калі заказваюць, то коле і дровы. За паколатыя дровы аплата з разліку каля 70 тысячаў з прычэпа. За мінулы год колатых дроў завезлі 370 кубоў. Што характэрна: пры дастаўцы колатых дроваў у вёску ўзнікае ланцуговая рэакцыя – заказваюць яшчэ. Прычэп папілаваных дроў каштуе 350 тыс. рублёў, плюс кошт прывозкі. Калі везці на адлегласць да 10 кіламетраў, трэба заплаціць да 500 тысяч рублёў.

Добра, што ў спажыўца ёсць права выбару: шумілінскі філіял АУП "Віцебскаблпаліў", прыватны нарыхтоўшчык ці саманарыхтоўка.

РЫНАК ПРАЦЫ

# ЯК ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ЗАНЯТАСЦЬ МОЛАДЗІ?

**Ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі на рынку працы маладым людзям цяжэй за ўсё знайсці прыстойную работу. Наймальнікам найперш патрабуюцца вопытныя спецыялісты. Улічваючы гэта, раённая служба занятасці распрацавала комплекс мер, якія дазваляюць рэалізоўваць працэс забяспячэння моладзі працоўнымі месцамі.**

У рамках праграмы "Маладзёжная практыка" спецыялісты аддзела занятасці дапамагаюць моладзі не толькі знайсці працоўнае месца, але і набыць канкрэтную спецыяльнасць. Раней ужо былі ўладкаваны шэсць юнакоў і дзяўчат у прадпрыемства меліярацыйных сістэм і віцебскія арганізацыі. Маладым людзям прапаноўваюць курсы перападрыхтоўкі, а наймальнікам з райвыканкама аплачваюць расходы за першае паўгоддзе ў памеры мінімальнай заработнай платы.

Як паказвае практыка, часцей за ўсё большасць працаўладкаваных застаюцца на першым працоўным месцы. Адзін спадар з вёскі Башні праз упраўленне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне здолеў уладкавацца вадзіцелем аўтобуса ў "Аграбаравінку". Работа спадабалася, і ён застаўся ў гаспадарцы. А кіраўніцтва сельгаспрадпрыемства абяцае выдзеліць новы аўтобус.

Аднак не трэба забываць, што галоўная праблема палягае ў тым, што па-ранейшаму востра не хапае менавіта высокакваліфікаваных спецыялістаў. Штогод прадпрыемствы папаўняюцца адукаванымі маладымі кадрамі, якія прыбываюць у раён па размеркаванню пасля заканчэння вучобы. На жаль, многія з іх, адпрацаваўшы вызначаны тэрмін, з'язджаюць з раёна назаўсёды.

**С. Горкі.**

ТЭРЫТОРЫЯ ДАБРА

# НАВУЧЫЦЦА ЖЫЦЬ ПАЎНАВАРТАСНА

Ужо стала добрай традыцыяй на Шумілінщчыне арганізоўваць для людзей з абмежаванымі магчымасцямі разнастайныя сустрэчы, ранішнікі, канцэртныя праграмы і дабрачынныя акцыі. Днямі ў Лескавіцкім сельскім клубе прайшло чарговае мерапрыемства, якое ладзіла раённае таварыства інвалідаў.

Шумілінская жыхары з абмежаванымі магчымасцямі вучацца жыць паўнацэнна. Дэвізам для сябе яны выбралі мудры выраз: «Інваліднасць — гэта не хвароба. Яна не лечыцца, а пераадольваецца». На сваё свята "Рабі добра" у Лескавіцкі сельскі клуб з'ехаліся шмат гасцей, якія пражываюць на тэрыторыі Светласельскага сельсавета.

Сустрэча пачалася абмеркаваннем надзённых пытанняў на справаздачна-выбарчым сходзе. Аб выніках работы раённай арганізацыі таварыства інвалідаў расказала яе старшыня Лілія Нагібава. Усё гэта робіцца для таго, каб рэалізаваць асноўную задачу: дапамагчы хворым людзям супольна пераадольваць свае праблемы. Таму госці ўважліва выслухалі ўсе праблемы, якія ўздымалі прысутныя, па некаторых былі адразу дадзены адказы, іншыя — узяты на кантроль. Разам з тым былі праведзены выбары старшыні пярвічнай арганізацыі таварыства інвалідаў Светласельскага сельсавета. Прысутныя адзінагалосна абралі Лілію Бабкову з вёскі Засіннікі.

А для таго, каб пераадольваць свае праблемы, трэба ісці да людзей, размаўляць, дзяліцца вопытам, сумесна знаходзіць рашэнні, радавацца кожнай маленькай перамозе — сваей і свайго сябра. Дзякуючы намаганням Ліліі Нагібавай , сяброў у людзей з абмежаванымі магчымасцямі значна пабольшала. Больш за два дзесяткі чалавек сталі членамі пярвічнай арганізацыі. Да таго ж нельга забываць, што людзі сабраліся на святочны агеньчык, а гэта значыць — маглі паласавацца смачнымі пачастункамі, запіваючы іх гарачай гарбатай. А цудоўныя песні, танцы і гульні падрыхтаваныя работнікамі Лескавіцкага сельскага клуба дапамаглі людзям проста прыемна правесці час. Канцэрт самадзейных артыстаў, як ніколі падняў настрой, даў добры зарад жыццёвай энергіі. І сапраўды, задушэўныя лірычныя песні кранали да слёз, байкі і вершы-жарты прымушалі шчыра смяяцца – сярод гледачоў у зале не было ні адной пары раўнадушных вачэй.

**С. Горкі.**

ПОГЛЯД ЛІДЭРА

# ПРАШЭННЕ ЛУКАШЭНКУ – ЯК ЛІСТ Д'ЯБЛУ

ЗЯНОН ПАЗЬНЯК: «У ЯКІЯ ЯШЧЭ МАЗГІ МОГУЦЬ ПРЫЙСЦІ ТАКІЯ ПАВОДЗІНЫ — КІНУЦЬ ЛЮДЗЕЙ У КАМЕРУ І КАТАВАЦЬ — «ПІШЫ МНЕ ПРАШЭННЕ, КАБ Я ЦЯБЕ ВЫЗВАЛІЎ!».

«Некаторыя палітвязьні не вытрымалі ціску і напісалі прашэнне аб памілаванні, і ў беларускім грамадстве ідзе дыскусія, ці гэта было слушнае рашэнне? Якой меркай людзі на свабодзе могуць ацэньваць гэтае рашэнне? Якое Ваша стаўленне, і які будзе лёс палітвязняў?» — запыталася ў нацыянальнага лідара радыё «Свабода».

Зянон Пазняк адказаў так. «Тут ёсць два аспекты. Адзін — палітычны аспект, гэта вельмі цяжкі аспект, бо ён поўны абсурду. Чалавека кінулі ў турму, з яго здзекуюцца і катуюць, каб ён напісаў прашэнне аб вызваленні. Поўны абсурд! Але гэта абсурд мае пад сабой шызафрэнічную логіку. Ідзе барацьба за душу чалавека, каб потым самаісна распараджацца яго ягонай душой. Калі чалавек падпіша такое прашэнне, значыцца, кат мае пэўнае алібі — ён, як кажуць, свабодна можа прадаваць гэты тавар, у залежнасці ад кан'юнктуры.

У якія яшчэ мазгі могуць прыйсці такія паводзіны — кінуць людзей у камеру і пачынаць іх катаваць — «пішы мне прашэнне, каб я цябе вызваліў!». Дык вось, у гэтым сэнсе, у палітычным, трэба разумець, што падпісанне такога прашэння — гэта тое самае, што падпісаць ліст д'яблу. Гэта трэба разумець, якія з гэтага будуць вынікі і высновы.

Другі аспект вельмі істотны. Што людзей, якіх катуюць у турме, каб яны пісалі прашэнне і гэтак далей, — гэты абсурд датычыцца толькі іх. Яны не павінны, як кажуць, гуляць у напарстак з катам.

«Трэба табе прашэнне — калі ласка, бяры сваё прашэнне!». Бо ўсе бачаць, якім чынам выбіваюць гэтыя прашэнні. Яны не маюць ніякай віны тут.

Каб ад іх патрабавалі «закласці» таварыша, нейкага выдаць, нейкага агаварыць — гэта іншая справа, тады трэба, як кажуць, стаць моцна. Тут зусім іншае, тут цябе прымушаюць гуляць у напарстак. Не трэба з катам гуляць у напарстак. І таму, тое, што гэтыя людзі гэта напісалі, калі ён выбіваў іхняе прашэнне — гэта якраз абсалютна рацыянальны і разумны ход.

Іх ніхто іх за гэта не асудзіць. Яны нікога не прадалі, нікога не выдалі, нікому дрэнна не зрабілі, акрамя як сабе. Ды і сабе ў дадзеным выпадку нічога дрэннага яны не зрабілі, акрамя таго, што вось падпісалі гэты ліст д'яблу.

Таму што гэтым справе не скончыцца, ён будзе гандляваца, будзе гэта выкарыстоўваць, працягнецца далейшы ціск. Гэта трэба заўсёды памятаць. І грамадскасць, якая назірае за гэтым, павінна разумець такія рэчы. Ведаеце што, я ўпершыню з такім спаткаўся, каб як кот з мышкам кат гуляў з людзьмі.

Укінуць у камеру, катаваць — «пішы мне прашэнне!». Вось якая логіка гэтага абсурду і маразму. Трэба з гэтым разабрацца і грамадству, і, я думаю, самі вязні з гэтым разбяруцца.

Гэта не выключае, безумоўна, вельмі небяспечнай сітуацыі для іх у сувязі з гэтым падпісаннем, але ў маральным сэнсе гэта абсалютна прымальна, пісаць такія цыдулкі, каб не гуляць зь ім у брудныя гульні.

**Паводле радыё «Свабода».**

ПАДАЙЦЕ!

# МІНСК ВЫСТАВІЎ МАСКВЕ НОВЫ РАХУНАК ЗА ГАТОЎНАСЦЬ «ЛЕГЧЫ ПАД ТАНКІ НАТА»

БЕЛАРУСКАЕ КІРАЎНІЦТВА НА ПАДСТАВЕ ПАВЫШЭННЯ ДАБРАБЫТУ ВАЕННЫХ ХОЧА ПАВЯЛІЧЫЦЬ ЎКЛАД РАСІІ Ў ФІНАНСАВАННЕ АБАРОННЫХ ВЫДАТКАЎ КРАІНЫ. НЕКАЛЬКІ НЯЗГРАБНЫЯ ЗАЯВЫ НА ГЭТЫ КОНТ ВЫКЛІКАЛІ РЭЗКУЮ КРЫТЫКУ З ВУСНАЎ ЎНУТРАНЫХ АПАНЕНТАЎ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ. АДБІВАЮЧЫСЯ АД АБВІНАВАЧВАННЯЎ У «ЗДРАДЗЕ РАДЗІМЫ», УЛАДАМ ПРЫЙШЛОСЯ УДАКЛАДНЯЦЬ СВАЮ ПАЗІЦЫЮ.

6 лютага на сустрэчы з кіраўніком Савета бяспекі Леанідам Мальцавым і міністрам абароны Юрыем Жадобіным Аляксандр Лукашэнка зрабіў заяву, з якога вынікае, што беларускім ваенным неабходна падымаць зарплату, арыентуючыся на расійскі ўзровень.

Паводле слоў прэзідэнта, беларуская і расійская арміі сёння практычна вырашаюць агульныя задачы (і ў гэтым плане дэ-факта з'яўляюцца адзінай войскам). Аднак памер грашовага забеспячэння ваенных Беларусі і Расіі адрозніваецца. Такое становішча павінна быць зменена, падкрэсліў афіцыйны лідэр.

Адзначым, што па дадзеных, апублікаваных у прэсе, з 1 студзеня 2012 года аплата працы расійскіх вайскоўцаў павялічана ў 2,5-3 разы. Пенсіі адстаўнікоў выраслі ў 1,5-2 разы. У выніку расейскія ваенныя цяпер зарабляюць значна больш, чым беларускія калегі.

Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што накіраваў Дзмітрыю Мядзведзеву ліст «аб неабходнасці пошукі дадатковых сродкаў для беларускіх вайскоўцаў за кошт розных напрамкаў супрацоўніцтва Беларусі і Расеі». Са словаў беларускага прэзідэнта вынікае, што, згодна з папярэдняй дамоўленасці, Мядзведзеў паабяцаў дапамагчы.

Між тым, як вынікае з паведамленняў СМІ, некаторыя палітычныя апаненты палічылі гэтую просьбу прэзідэнта і галоўнакамандуючага ўзброенымі сіламі Беларусі «абразай беларускіх вайскоўцаў».

На думку крытыкаў, удзел расійскага бюджэту ў фінансаванні беларускай арміі з'яўляецца для краіны яшчэ большай небяспекай, чым пераход на расійскі рубель, бомбай запаволенага дзеяння, закладваецца пад незалежнасць і нацыянальную бяспеку. Лагічным вынікам такой палітыкі стане адпраўка па ўказцы Расіі беларускіх вайскоўцаў у гарачыя кропкі на постсавецкай прасторы, мяркуюць ўнутраныя апаненты Лукашэнкі.

Уяўляецца, аднак, што падобнага роду ацэнкі носяць хутчэй эмацыйны характар. У заканадаўстве Беларусі няма юрыдычных падстаў ні для найму дзеючых беларускіх ваенных якім-небудзь замежнай дзяржавай, ні для выкарыстання іх у баявых дзеяннях за межамі дзяржавы. Нават удзел у міратворчых місіях пад эгідай ААН - справа асабліва добраахвотнае, рашэнне па кожнай кандыдатуры прымаецца ў індывідуальным парадку.

Сама ж па сабе чарговая просьба Аляксандра Лукашэнкі аб матэрыяльнай дапамогі, звернутая да ўсходняй суседцы, не з'яўляецца чымсьці экстраардынарным. Такога роду звароту ўжо даўно з'яўляюцца неад'емнай часткай адносін Мінска і Масквы, якія будуюцца па прынцыпе: абарона ваенна-стратэгічных і геапалітычных інтарэсаў Расеі ў абмен на эканамічныя прэферэнцыі для беларускага рэжыму.

Сутнасць матывацыі звычайна зводзіцца да таго, што без падтрымкі Расеі Беларусі складана і цяжка выконваць свае функцыі па абароне заходніх рубяжоў Саюзнай дзяржавы.

Праўда, раней у большасці выпадкаў размова ішла аб дапамозе хоць бы ўзбраеннем. І трэба адзначыць, што Масква не адмаўляла. Дастаткова ўспомніць аб пастаўцы некалькі гадоў таму зенітных ракетных комплексаў (ЗРК) С-300 па значна больш нізкіх, чым на сусветным рынку, цэнах. Або аб зусім нядаўнім набыцці мабільных ЗРК «Тор-2М» па ўнутрырасейскіх расцэнках.

Але гэтым справа не абмяжоўваецца. Расейцы бяруць на сябе ільвіную долю выдаткаў на сумесныя ваенныя вучэнні, пастаўляюць на льготных умовах запасныя часткі, расходныя, гаруча-змазачныя матэрыялы і г.д.

І хоць Аляксандр Лукашэнка перыядычна наракае на скнарлівасці саюзніка, эканомія сродкаў ваеннага бюджэту за кошт падобных льгот атрымліваецца для Мінска досыць значнай, з'яўляецца магчымасць вызваляць выдаткаваць вызваленыя грошы на іншыя патрэбы сваіх вайскоўцаў. У тым ліку і на іх грашовае забеспячэнне.

Як уяўляецца, і ў свежым выпадку маецца на ўвазе аналагічная дапамогу. Заўважце: у нашумелай заяве беларускага прэзідэнта гаворыцца аб пошуку сродкаў «за кошт розных напрамкаў супрацоўніцтва Беларусі і Расеі». Проста цяпер беларускаму кіраўніцтву палітычна выгадна падкрэсліць, што яно дбае не аб стралялючых жалезках, а менавіта аб павышэнні дабрабыту вайскоўцаў. Прасцей кажучы, гэта рэверанс, накіраваны на задобранне сілавікоў.

Бо людзі ў вайсковых пагонах, як і ўсе бюджэтнікі, панеслі значны матэрыяльны ўрон у выніку дэвальвацыі нацыянальнай валюты, гіперінфляцыі. Што наўрад ці станоўча адбілася на настроях думак вайскоўцаў. А пытанні лаяльнасці арміі і сілавых ведамстваў не можа ігнараваць ніякая, нават калі заўгодна шчасная ўлады.

Да таго ж паражальнае адставанне ў даходах можа падштурхнуць немалы лік афіцэраў беларускай арміі і кантрактнікаў да пакідання яе шэрагаў і пераходу пад расейскія сцягі (нават нягледзячы на рызыку апынуцца ў гарачых кропках). Але ж прафесійная падрыхтоўка гэтых людзей каштавала беларускім падаткаплацельшчыкам велізарных сродкаў.

Падобна, менавіта гэтымі меркаваннямі і кіраваўся Аляксандр Лукашэнка, згадаўшы аб згодзе прэзідэнта Расіі адгукнуцца на яго просьбу аказаць дапамогу беларускім вайскоўцам. Вось толькі форма гэтай заявы апынулася не вельмі ўдалай, чым адразу і скарысталіся палітычныя праціўнікі.

У выніку праз пару дзён акцэнты даваліся расстаўляць міністру абароны Жадобіну. Паводле яго версіі, «СМІ растыражавалі насельніцтву некарэктную інфармацыю» адносна павышэння грашовага забеспячэння вайскоўцаў.

«Магло складсіся ўражанне, - адзначыў генерал Жадобін, - што на той сустрэчы размова ішла аб неабходнасці пошукі для беларускіх вайскоўцаў дадатковых сродкаў з бюджэту Расеі. На самай справе падкрэслівалася: паспяховае ваеннае супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі можа стаць адным з аргументаў на атрыманні прэферэнцый ў эканамічных пытаннях, напрыклад, у дачыненні да пошлін на нафту або газ, якія дазволяць папоўніць бюджэт краіны і даць магчымасць павысіць грашовае ўтрыманне нашых вайскоўцаў ».

Такім чынам, наша здагадка пацвярджаецца. Мінск зноў выкарыстоўвае выпрабаваных формулу: Маскве прапанавана стымуляваць эканамічнымі прэферэнцыямі міфалагізаваную гатоўнасць беларусаў «легчы пад танкі НАТА».

**Аляксандр Алесін.**

ДА 800 ДАЛЯРАЎ

# ГРАНДЫЁЗНЫЯ ПЛАНЫ СНАПКОВА

У БЕЛАРУСІ ДА 2015 ГОДА З ТРАДЫЦЫЙНЫХ ГАЛІН ЭКАНОМІКІ БУДУЦЬ ЗВОЛЬНЕНЫЯ КАЛЯ 280 ТЫС. РАБОТНІКАЎ. ПРА ГЭТА ПАВЕДАМІЎ 7 ЛЮТАГА МІНІСТР ЭКАНОМІКІ МІКАЛАЙ СНАПКОЎ. ПАВОДЛЕ ЯГО ЗАПЭЎНЕННЯЎ, ВЫЗВАЛЕНЫЯ РАБОТНІКІ БУДУЦЬ ПЕРАНАКІРАВАНЫЯ НА НОВЫЯ ВЫТВОРЧАСЦІ, ЯКІЯ ЯШЧЭ ТОЛЬКІ ПЛАНУЕЦЦА СТВАРЫЦЬ. ГЭТА ПАВІННА ПРЫВЕСЦІ ДА ДАСЯГНЕННЯ МІНІМАЛЬНАЙ ЗАРПЛАТЫ Ў 800 ДАЛЯРАЎ.

Такія планы ўладаў абумоўлены незбалансаванасцю росту прадукцыйнасці працы і росту заработнай платы, што ўяўляе пэўныя рызыкі, растлумачыў кіраўнік мінэканомікі на пасяджэнні Савета міністраў.

Работнікаў плануецца перанакіраваць на высокапрадукцыйныя працоўныя месцы, што дазволіць пазбегнуць адтоку кваліфікаваных кадраў з-за нізкага ўзроўню заробкаў у Беларусі, перадае БелТА.

## Снапкоў абяцае заробкі да 800 даляраў

«Дабаўленая вартасць, якую мы дасягнем ў 2015 годзе, пры неабходнасці дасягнення мінімальнай зарплаты ў 800 даляраў - адпаведным чынам на гэтую дабаўленую вартасць павінна быць колькасць занятых. Астатняя колькасць вызваляецца. Адпаведна, людзі будуць занятыя на новых высокаэфектыўных вытворчасцях», - заявіў Мікалай Снапкоў.

Як адзначыў міністр, на традыцыйных вытворчасцях зарплаты вырастуць за кошт зніжэння колькасці работнікаў, а на новых яны будуць расці за кошт дасягнення высокага ўзроўню дабаўленай вартасці.

Для стварэння новых высокапрадукцыйных вытворчасцяў, па словах кіраўніка мінэканомікі, да 2015 года неабходна прыцягнуць каля 38 млрд даляраў інвестыцый, з якіх 23 млрд пойдуць на набыццё машын і абсталявання.

«Прадукцыйнасць - асноўная задача на наступныя чатыры гады. Амаль дзве трацыны даследаванняў па эканоміцы разглядаюць гэтае пытанне. Як матываваць, забаўсць, прымусіць чалавека на высокатэхналагічным абсталяванні павялічыць сваю прадукцыйнасць. У нас у краіне гэтай праблемы пакуль няма. У нас ёсць дысцыплінаваны, нерасцпешчаны чалавечы рэсурс, і наша задача - вызваліць гэты ўнутраны рэзерв», - падкрэсліў Мікалай Снапкоў.

Як раней перадаваў Тэлеграф, міністр эканомікі Беларусі 27 снежня 2011 года прадставіў праект Стратэгіі прыцягнення прамых замежных інвестыцый на перыяд да 2015 года. Паводле яго слоў, у аснову пакладзены «якасны аспект прыцягнення інвестыцый, які забяспечвае ўвоз у рэспубліку новых і высокіх тэхналогій, а інавацыйная мадэль развіцця эканомікі нашай краіны павінна стаць дамінуючай».



ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# МАСТАЦКІ СВІСТ

УВЯДЗЕННЕ ПАСАДЫ АМБУДСМЭНА — РЭДКАЯ НАВІНА З РАЗРАДУ РАЗУМНЫХ. АЛЕ ЎСЕ РАГОЧУЦЬ. НА СУСТРЭЧЫ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ СА СТАРШЫНЁЙ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА ПЯТРОМ МІКЛАШЭВІЧАМ БЫЛО ЗАЯЎЛЕНА АБ МАГЧЫМАСЦІ ЎВЯДЗЕННЯ Ў БЕЛАРУСІ ІНСТЫТУТА АМБУДСМЕНА — УПАЎНАВАЖАНАГА ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА.

Па законах жанру, ужо даволі вядомага Дзіму Паўлічэнку ў амбудсмены сасваталі. Галоўнае, каб ён назву новай пасады выгаварыў — і тады па ўсіх параметрах падыдзе: юрыст, ад зямлі, з вялікім і багатым досведам…

Або вось яшчэ кандыдат — вялікі абаронца правоў чалавека з дапамогай тэлебачання Яўген Новікаў. Ужо як ён стараецца, як выкрывае! Наслухаўшыся яго праніклівых прамоваў пра вар'яцкі рост цэнаў у Еўропе, я амаль бегла слаць пасылкі салідарнасці ў Брусэль, прыгнечанаму пралетарыяту. Так, на шчасце, своечасова ў рэдакцыі добры чалавек аб'явіўся, наш былы зямляк, цяпер — эмігрант. Расказаў, што і праўда хвалюецца Бельгія, наракае, незадаволеная — у сярэднім за год аж на 20 цэнтаў цэны павысіліся.

Увогуле, з талентамі мастацкага свісту, якімі валодаюць такія новікавы, з нас хутка будуць выбіваць слязу па няшчасных бедуінах, якім пяску ў пустыні не хапае. Затое тым, што ў сябе, у Беларусі, ужо стала небяспечна «з крыніцы вады напіцца» — яны не занепакояцца.

Таму калі вярнуцца да праўды жыцця, то саму па сабе ідэю ўвесці ў Беларусі пасаду амбудсмена — упаўнаважанага па правах чалавека — можна толькі вітаць. Праблема гэтая не проста наспелая, а ўжо перасрпелая. Праўда, вырашыць яе ўвядзеннем пасады ўпаўнаважанага можна толькі пры ўмове, што амбудсменам стане чалавек з адпаведнай рэпутацыяй. Алесь Бяляцкі, напрыклад. Ці Гары Паганяйла. Ці Святлана Алексіевіч…

Чалавек, які будзе думаць не пра дзяржаўныя інтарэсы ў іх цяперашнім разуменні — каго пасадзіць, каго запалохаць, што забараніць, задушыць, заціснуць і як апраўдаць гэтыя дзеянні…

А пра абарону людзей ад такіх замахаў дзяржавы. Чалавек, які не будзе ў носе калупаць і паперкі перакладаць, калі ў турме здзекуюцца з палітвязняў, а наадварот, пачне дняваць і начаваць у гэтай турме, біць ва ўсе званы, будзіць прэзідэнта сярод ночы з патрабаваннем спыніць беззаконне.

Ніякі іншы амбудсмен Беларусі не патрэбны. Структур, пасад, саветаў самых розных псеўдаабаронцаў у нас і без таго дастаткова.

Вось, напрыклад, дэпутаты — знямелы голас народа. Цэлую камісію па правах чалавека ў Палаце прадстаўнікоў стварылі. І што? Гэтыя дзеячы адабралі ў людзей нават тыя правы, якія былі. Напрыклад, права выйсці на вуліцу і хоць бы дружна папляскаць чарговаму мудраму рашэнню ўласнай улады. У той жа час калі такіх абаронцаў паслухаць — дык яны дзень і ноч працуюць, нашы з вамі свабоды абараняюць.

І не адны яны такія. Імітацыя бурнай дзейнасці па рашэнні важных праблем у Беларусіператварылася ў нейкі дурны спектакль. Мастацкі свіст зрабіўся элементам палітыкі. Усе страшна заклапочаныя, усе пры справе, нешта ствараюць, над чымсьці галаву ламаюць, нешта прапануюць, абмяркоўваюць, раяцца… Толькі атрымліваецца яшчэ горш. Пры гэтым усім зразумела, што ёсць абсалютна простыя і рэальна эфектыўныя рашэнні — было б жаданне нешта насамрэч мяняць.

Да прыкладу, 17 гадоў улада беспаспяхова змагаецца з карупцыяй, але чамусьці гэтыя кампаніі часта перараджаюцца ў банальнае звядзенне рахункаў і анархію праваахоўных органаў. А для пачатку ўсяго і трэба — прызначыць генпракурорам дасведчанага юрыста не са складу цяперашняй збітай кодлы, дзе ўсе даўно адзін з адным павязаныя. Напрыклад, былога суддзю Канстытуцыйнага суда Міхаіла Пастухова або яго калегу, Заслужанага юрыста Беларусі Валерыя Фадзеева. І мы здзівімся, як хутка яны разбяруцца, што там хто дзеліць, каго прыкрывае, каго падстаўляе, каго адмазвае… А як узрасце ў гэтым выпадку рэйтынг даверу да кожнага абвінавачання, падтрыманага пракуратурай! Як разам зможнуць тыя, хто скептычна крывіцца пры кожным згадванні антыкарупцыйных ініцыятываў!..

Або вось у судах у нас праблемы. Бязрукія, згодна з нашымі судовымі вердыктамі, пляскаюць у ладкі, а нямыя гарлапаняць матам. Але ведаў свет гэтую праблему, ведае і рашэнне. Таемным галасаваннем адвакатаў выбіралі новых кіраўнікоў судовай сістэмы і ўводзілі фінансавую адказнасць суддзяў за несправядлівыя прысуды. І ўсё!

Калі здаровая галава, то цудоўным чынам аздараўляецца і ўся сістэма. Тым больш калі суддзя ведае, што ў выпадку чаго прадасць сваю кватэру, без штаноў застанецца, але будзе выплачваць кампенсацыю таму, каго незаконна пасадзіў. Тады аўтаматычна і следства падцягваецца да належнага ўзроўню, і апаратыўнікі вывучаюць закон.

Зразумела, што і пра ўпаўнаважанага па правах чалавека Міклашэвіч з Лукашэнкам таксама могуць гаварыць гадзінамі, месяцамі і нават гадамі. Але гэтае рашэнне на паверхні, таму не трэба свістаць. Мандат — Бяляцкаму! І толькі тады сціхне гамерычны рогат у зале.

**Святлана Калінкіна.**

САЛІДАРНАСЦЬ

# "РУКІ ЎЛАДАЎ БЕЛАРУСІ БУДУЦЬ У КРЫВІ, КАЛІ ЁН ПАМРЭ"

ПРЭЗІДЭНТ ЕЎРАПАРЛАМЕНТА (ЕП) МАРЦІН ШУЛЬЦ «УЗРУШАНЫ ПАГАРШЭННЕМ СІТУАЦЫІ З ДЭМАКРАТЫЯЙ І ПРАВАМІ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСІ». ПРА ГЭТА ЁН ЗАЯВІЎ 14 ЛЮТАГА Ў СТРАСБУРГУ ПАСЛЯ СУСТРЭЧЫ З КАМІСАРАМ ЕЎРАСАЮЗА ПА ПЫТАННЯХ ПАШЫРЭННЯ І ПАЛІТЫКІ ДОБРАСУСЕДСТВА ШТЭФАНАМ ФЮЛЕ, НА ЯКОЙ ЯНЫ АБМЯРКОЎВАЛІ СІТУАЦЫЮ Ў БЕЛАРУСІ, ПАВЕДАМЛЯЕ ПРЭС-СЛУЖБА ПРАДСТАЎНІЦТВА ЕС У МІНСКУ.

*«Працяглая галадоўка, якую праводзіць актывіст апазіцыі Сяргей Каваленка, што знаходзіцца ў зняволенні, высвеціла парушэнні дэмакратычных прынцыпаў і непавагу да вяршэнства закона. Жыццё Каваленкі зараз знаходзіцца ў небяспецы з-за галадоўкі, якую ён праводзіць у сувязі з незаконным зняволеннем»,* — гаворыцца ў заяве.

Шульц заклікаў беларускія ўлады неадкладна і без усякіх умоў вызваліць Каваленку і аказаць яму ўсю неабходную медыцынскую дапамогу, перадае БелаПАН. *«Рукі ўладаў Беларусі будуць у крыві, калі ён памрэ»,* — падкрэсліў Шульц.

Ён таксама зноў заклікаў вызваліць і рэабілітаваць усіх палітзняволеных, сярод якіх два экс-кандыдаты ў прэзідэнты Мікалай Статкевіч і Андрэй Саннікаў, выбітны праваабаронца Алесь Бяляцкі, апазіцыйныя актывісты Дзмітрый Бандарэнка, Мікалай Аўтуховіч, Дзмітрый Дашкевіч і іншыя.

*«Я таксама зноў паўтару мой персанальны зварот да прэзідэнта Лукашэнкі з просьбай памілаваць Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава, якія знаходзяцца ў камеры смяротнікаў па рашэнні Вярхоўнага суда, — сказаў Шульц. — Мы выступаем супраць смяротнай кары пры любых акалічнасцях і зноў заклікаем Беларусь, якая застаецца адзінай краінай у Еўропе, дзе прымяняецца гэты від пакарання, увесці мараторый».*

Шульц зазначыў, што 16 лютага Еўрапарламент будзе абмяркоўваць праблему прымянення смяротнай кары ў Беларусі, Егіпце і Японіі і выступіць з адпаведнымі рэзалюцыямі.

*«Мы глыбока перажываем, што пазіцыя ўладаў заходўвае адносіны паміж Беларуссю і ЕС замарожанымі, — сказаў Шульц. — Грамадзяне Беларусі заслугоўваюць лепшага. Еўрапарламент рашуча падтрымлівае грамадзянскую супольнасць і дэмакратычныя памкненні беларускіх людзей, а таксама заклікае Мінск адказаць на прапанову ЕС па спрашчэнні візавых працэдур для беларускіх грамадзян».*

Нагадаем, актывіст Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ Сяргей Каваленка быў затрыманы ў снежні ў рамках крымінальнай справы па артыкуле 415 КК (ухіленне ад адбывання пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі). Яму пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі. Падставай для крымінальнага праследу сталі чатыры парушэнні, якія Каваленка нібыта ўчыніў, адбываючы пакаранне па прыгаворы суда Кастрычніцкага раёна Віцебска. У маі 2010 года суд прыгаварыў яго да трох гадоў пазбаўлення волі ўмоўна за вывешванне белчырвона-белага сцяга на галоўнай ёлцы Віцебска 7 студзеня.

Галадоўку Каваленка аб'явіў у знак нязгоды са сваім затрыманнем. Жонка апазіцыянера Алена Каваленка са спасылкай на адваката сцвярджае, што галадоўка была прыпынена супрацоўнікамі СІЗА насільна 17 студзеня: Сяргею пачалі ўводзіць ежу праз зонд. Затым, паводле інфармацыі адміністрацыі ізалятара, Каваленка непрацяглы час раз у суткі прымаў ежу самастойна. Аднак на гэты час, паводле слоў адваката, ён поўнасцю адмовіўся прымаць ежу, у тым ліку і праз прымусовае кармленне, паведамляе праваабарончы сайт **www.spring96.org.**

ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

# ДЗЯРЖКАНТРОЛЬ КРЫТЫКУЕ РАЗВІЦЦЁ ВІЦЕБШЧЫНЫ

НА ПАСЯДЖЭННІ ВІЦЕБСКАГА АБЛВЫКАНКАМА СТАРШЫНЯ ДЗЯРЖКАНТРОЛЯ АЛЯКСАНДР ЯКАБСОН КРЫТЫЧНА ВЫКАЗАЎСЯ НАКОНТ РАЗВІЦЦЯ ПРАМЫСЛОВАГА ПАТЭНЦЫЯЛУ РЭГІЁНА. УДЗЕЛЬНАЯ ВАГА ВІЦЕБШЧЫНЫ Ў ВУП БЕЛАРУСІ Ў 2011 ГОДЗЕ СКЛАЛА ТОЛЬКІ 8,6%.

Паводле інфармацыі БЕЛТА, Аляксандр Якабсон звярнуў асаблівую ўвагу на шэраг пытанняў, якія патрабуюць неадкладнага рашэння ў 2012 годзе. На думку старшыні КДК, адно з іх датычыцца прыцягнення прамых замежных інвестыцый. «На эмісійным шляху развіцця эканомікі пастаўлены заслон, таму так важна прыцягненне замежных інвестыцый», - падкрэсліў Аляксандр Якабсон. У 2011 годзе перад вобласцю стаяла задача прыцягнуць $ 637млн., прыцягнута ўсяго 3,4% ад задання. У 2012 годзе заданне скарочана амаль у пяць разоў да $ 143 млн., аднак і выкананне гэтага плана зноў выклікае сумнеў, бо за студзень прыцягнута ўсяго $ 4,5 млн, канстатаваў кіраўнік КДК.

Магутны прамысловы патэнцыял Віцебскай вобласці выкарыстоўваецца не ў поўнай меры, лічыць Аляксандр Якабсон. Удзельная вага ў валавым унутраным прадукце Беларусі склала 8,6%. Прычыны гэтага, як лічыць кіраўнік кантрольнага ведамства, крыюцца ў нізкай рэнтабельнасці продажаў і нізкай прадукцыйнасці працы ў прамысловасці.

Нявырашаныя праблемы маюцца ў сельскай гаспадарцы. Па тэмпах росту аб'ёмаў вытворчасці ў сельскай гаспадарцы вобласць знаходзіцца ў лідэрах і займае 2-е месца па ўдзельнай вазе ў рэспубліканскім аб'ёме сельгасвытворчасці. Аднак яе эфектыўнасць невысокая. Аляксандр Якабсон звярнуў увагу на неабходнасць больш хуткага пераходу сельгасвытворчасці на якасны ўзровень, павышэння рэнтабельнасці, ураджайнасці, нарошчвання прыбаўленняў у вазе.

Асаблівую трывогу КДК выклікае работа па паляпшэнню ўрадлівасці глебаў у вобласці. Па дадзеных камітэта, мінулай восенню ў глебу ўнесена 26% угнаеннняў ад патрэбы. Напярэдадні пасяўной запасы мінеральных угнаенняў складаюць усяго сёмую частку ад патрэбы. Сярод недахопаў у дзейнасці рэгіёну Аляксандр Якабсон таксама назваў рост пазыковых абавязацельстваў і запатрабаваў зрабіць больш жорсткім эканомію бюджэтных сродкаў.

**Л. Антонаў.**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742

**Падпісана да друку 16.02.2012 у 18.40.**
Наклад: 290 асобнікаў.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.